**№ 219 (1782)**
Чацвер, 20 лістапада 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +4...+6, дождж, уначы— +2...+4, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +5...+7, уначы — +2...+4, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +5...+7, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -1...+1, снег, уначы — -1...+1, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +4...+6, уначы — +3...+5, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +3...+5, дождж, уначы — +1...+3, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Еўрасаюз зноў заклікае. Вядома каго

Еўрапейскі Саюз заклікае беларускія ўлады палепшыць сітуацыю ў галіне дэмакратыі і правоў чалавека, для таго каб стварыць аснову для наладжвання адносін з ЕС, да чаго імкнецца арганізацыя. Пра гэта гаворыцца ў заяве ЕС, зробленай на Пастаянным савеце АБСЕ 13 лістапада.

ЕС нагадвае пра сваё жаданне ўмацоўваць адносіны з суседзямі ў рамках праграмы "Пашыраная Еўропа" ініцыятывы "Новыя суседзі", заснаванай на доўгатэрміновым інтэграцыйным падыходзе з мэтай распаўсюджвання дэмакратычных і эканамічных рэформ, устойлівага развіцця і гандлю ў краінах, якія мяжуюць з Еўрасаюзам.

Зараз, лічаць у ЕС, Беларусь "ідзе ў няправільным кірунку, па шляху самаізаляцыі — палітыкі, якая не адпавядае нічыім інтарэсам".

Еўрасаюз "настойліва заклікае" Беларусь звярнуць увагу на гэтыя праблемы, якія на працягу года не раз уздымаліся ЕС.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## У кастрычніку інфляцыя ў Беларусі склала 1,9 працэнта

У кастрычніку 2003 года інфляцыя ў Беларусі склала 1,9 працэнта. Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, у цэлым з пачатку года спажывецкія цэны выраслі на 20,6 працэнта.

Нагадаем, што па прагнозах урада Беларусі, сярэдні штомесячны рост спажывецкіх цэн сёлета павінен складаць 1,4—1,8 працэнта. У цэлым жа за 2003 год інфляцыя не павінна перавысіць 24 працэнты. Такім чынам, па выніках кастрычніка прагноз па межавым узроўні інфляцыі ўжо выкананы на 86 працэнтаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Беларускі дзяржаўны музычны тэатр зноў адчыніў дзверы

У Беларускім дзяржаўным музычным тэатры прайшоў першы пасля рамонту спектакль — аперэта "Каралева Чардашу". Рамонт пачаўся напрыканцы ліпеня.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску дырэктар тэатра, заслужаны артыст Беларусі Аляксей Ісаеў, падчас рамонту паклалі паркет, паставілі новыя крэслы, адрамантавалі аркестровую яму (у выніку чаго гук стаў больш мяккім), ганак тэатра і шмат іншае, правялі іншыя работы па аздабленні. Акрамя гэтага ў тэатры ўстаноўлена новае гукавое абсталяванне коштам 130 тысяч долараў. Заказалі новае светлавое абсталяванне, унікальную лазерную ўстаноўку і відэапраектар. "Сёння па гуку з нашым тэатрам можна параўнаць хіба фестываль "Славянскі базар у Віцебску", і многія артысты хочуць правесці свае творчыя вечарыны тут", — сказаў дырэктар.

Кажучы пра планы, дырэктар тэатра зазначыў, што на 13 снежня запланавана прэм'ера мюзікла "Бураціна.by" на музыку вядомага расійскага кампазітара Аляксея Рыбнікава. Сярод праектаў наступнага года ён адзначыў праграму мюзік-хола, тэатралізаваную праграму з удзелам усіх артыстаў тэатра, прысвечаную 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама рок-оперу-балет "Арфей і Эўрыдыка" на музыку Аляксандра Журбіна.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## «Выпадковага прэзідэнта» прэзентавалі ў расійскай Дзярждуме

Расіянам вельмі неабходны шчыры і сур'ёзны аповед аб тым, што сапраўды адбываецца ў Беларусі. Пра гэта заявіў лідэр партыі "Саюз правых сіл" Барыс Нямцоў, выступаючы на прэзентацыі кнігі "Выпадковы прэзідэнт", якая прайшла ў будынку Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі.

Аўтары кнігі — галоўны рэдактар "Белорусской деловой газеты" Святлана Калінкіна і кіраўнік аддзела спецыяльных праектаў Першага канала расійскага тэлебачання Павел Шарамет.

У інтэрв'ю БелаПАН Павел Шарамет адзначыў, што кніга прадстаўляе асабісты погляд аўтараў на тое, што адбылося ў Беларусі. На яго думку, у сітуацыі, калі інфармацыйная прастора ў краіне гранічна звузілася, такія кнігі дазваляюць людзям запаўняць узніклы вакуум неафіцыйнымі звесткамі, думаць і рабіць высновы. "Кожнае слова ў кнізе пацверджана дакументамі або сведчаннямі відавочцаў, таму спробы абвінаваціць нас у неаб'ектыўнасці безгрунтоўныя", — падкрэсліў Шарамет.

Паводле яго слоў, кніга разлічана ў першую чаргу на расійскую аўдыторыю. "Мы вырашылі растлумачыць расіянам, што адбываецца ў Беларусі, каб яны не трапілі ў пасткі, у якіх апынуўся беларускі народ", — сказаў Шарамет.

**Андрэй ЛАТЫШЭВІЧ.**

**ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ**

# Козулина обвинили...

**Во вторник глава Администрации президента Урал Латыпов назвал причины, якобы по которым А.Лукашенко снял с должности ректора БГУ Александра Козулина. Это произошло во время внеочередного заседания Ученого совета БГУ.**

Но обо всем по порядку.

Раньше, даже после того, как появился указ А.Лукашенко о том, что назначать и снимать ректора БГУ — прерогатива президента, с ученым советом БГУ пусть формально, но советовались. Во вторник ученых поставили перед фактом: Козулина освободили, Стражева назначили.

Урал Латыпов сказал, что он направлен в БГУ "объяснить логику" принятых Лукашенко решений.

— *Уважаемые товарищи,* — обратился он к собравшимся, — *президент поручил мне, чтобы я вам, членам Ученого совета университета — учебного заведения, к которому он относится с глубоким уважением, объяснил суть, логику принятых им решений, чтобы вы понимали мотивацию принятых решений. Для того чтобы проследить это, надо вернуться к 1996 году.*

*Все вы помните, в каком состоянии находился тогда университет, материальная база университета, скажем, тонус профессорско-преподавательского состава. Президент ставил перед собой задачу: надо поднять национальный университет. Это символ государства, символ государственности, это главная, основная учебная и научная база в стране. И под эту задачу искали тогда человека энергичного, способного поднять весь комплекс проблем. И выбор пал на Александра Владиславовича Козулина. Я тогда был первым помощником президента и был в числе тех, кто активно поддерживал эту кандидатуру и обосновывал президенту, что именно он — человек молодой, энергичный, с административным опытом, способен решить поставленные задачи. Скажу, что это было неоднозначное решение, были разные моменты, но решение о назначении было принято.*

*Это было не просто кадровое решение. Под это решение президент принял ряд поддерживающих указ решений. Университет стал ведущим учебным заведением страны. Причем не просто по названию, а по статусу. Финансирование университета осуществлялось по индивидуальным нормативам из государственного бюджета. Университету были установлены соответствующие таможенные, налоговые льготы. Объем финансирования из госбюджета составлял 30 процентов из денег, выделяемых на остальные вузы. У нас в стране 44 государственных вуза. И изменения, которые произошли в университете, использовали эту поддержку. Это здание, другие здания, материально-техническая база, развертывание университета, количество учреждений... Сегодня, если я не ошибаюсь, только 17 унитарных предприятий в системе университета, не говоря о научно-исследовательских заведениях, количестве факультетов и т.д.*

*Руководитель университета получил беспрецедентные полномочия. Это был член правительства, и, по сути дела, Министерство образования было само по себе, университет — сам по себе.*

*Все, что сделано Козулиным, оно здесь, в университете, в студентах, и это остается в университете. Не зря говорят, что недостатки — это продолжение достоинств.*

*Было видно, что университет развивается вширь, но не всегда хватает необходимой глубины, которая должна быть в классическом учебном заведении. Речь идет о качестве выпускников. Я приведу пример только из своей практики.*

*Я работал министром иностранных дел, и с точки зрения языковой подготовки, рабочего языка, выпускник МГИМО, который приходил, и выпускник БГУ — это была большая разница.*

*Второй момент, создающий еще больше проблем, — это отклонение от классического университета, создание новых факультетов. Большая была история с созданием факультета фундаментальной и нетрадиционной медицины. Я был вынужден с этим разбираться, разбирался Совет министров, неоднократно это обсуждалось. Создали факультет, но не было квалификационной характеристики. Нет этой специальности в классе государственного классификата специальностей. Если это университет, если это все отрабатывается методично и глубоко, то, соответственно, все это должно быть и споров не должно вызывать.*

*Я не скажу, что с Александром Владиславовичем не было разговоров на все эти темы. Да, были. Президент мне сказал: "Ты скажи, что лично я сам три раза с ним разговаривал". Но, к сожалению, это никакого результата не давало.*

*И последний, инициирующий момент для принятия решения — это представление генерального прокурора от отстранения от должности на время следствия по известному делу, которое получило достаточно широкую огласку. От вас нет секрета, что прокурор вынес решение временно отстранить от должности. Но что значит временно отстранить от должности? И президент принял решение.*

*Во-первых, президент исходил из того, что ректор должен быть из университета. Второе, это должен быть человек, чьи педагогические и научные кондиции не вызывают сомнений и вопросов. И выбор пал на Василия Ивановича Стражева, которого вы хорошо знаете. С 1994 по 2001 год он был министром образования. Он закончил БГУ, это человек, который способен сохранить то позитивное, что было при Козулине, и держать университет в рамках классического высшего учебного заведения.*

*Я хочу сказать, что приоритетное финансирование, налоговые льготы и все остальное давалось не Козулину, давалось университету при ректоре Козулине, который, надо отдать должное, способствовал этому. Все, что давалось университету, будет сохраняться. Президент, я думаю, в свое время придет сам с вами встретиться, а сейчас он выразил пожелания, чтобы вы думали о своем учебном заведении, о национальном университете и уже с новым ректором продвигали дело вперед.*

Выступив перед учеными, Урал Латыпов сразу покинул зал. Правда, никто и не попытался задать ему вопрос.



*В президиум Козулина не пригласили.*

**Фото ByMedia.net**

*(Окончание на 2-й стр.)*

**СІТУАЦЫЯ**

## Каму мініраванне грэе душу?

У мінулую суботу з Цэнтральнага рынка Гомеля міліцыя і супрацоўнікі ўпраўлення МНС эвакуіравалі каля 7 тысяч пакупнікоў і прадпрымальнікаў. У 10.05 раніцы ў міліцыю паступіў ананімны тэлефонны званок, што рынак замініраваны. Гараджанам у чарговы раз сапсавалі выхадны дзень, а прадпрымальнікам — гандаль.

Не паспелі спецслужбы разабрацца з пагрозай выбуху ў цэнтры, як раздаўся чарговы тэлефонны званок з трывожным пытаннем: "А вы ў курсе, што рынак "Давыдаўскія рады" замініраваны?"

Пагроза мініравання розных сацыяльна важных аб'ектаў стала сапраўдным бедствам у Гомельскай вобласці. За апошні месяц падобныя пагрозы ў дачыненні школ, месц гандлю, бальніц, устаноў культуры гучалі 14 разоў. Але асабліва даймалі тэлефонныя тэрарысты Цэнтральны рынак. Толькі ў лістападзе тут двойчы пакідалі працу па трывожным паведамленні, у тым ліку і 7 лістапада, у дзень дзяржаўнага свята.

Усяго ж на працягу года рынку пагражалі мініраваннем паўдзесятка разоў. Пры гэтым сапёры вайсковай часці 5525 ні разу не знаходзілі выбуховых прыстасаванняў. Відавочна, што, паралізуючы рынак падманнымі званкамі, ананімы дамагаліся нейкай іншай мэты, а не ягонага рэальнага знішчэння.

Намеснік дырэктара Цэнтральнага рынка **Мікалай МАКАРАЎ** пра павышаную ўвагу тэлефонных тэрарыстаў да сваёй установы нічога пэўнага сказаць не можа: "О, калі б ведалі, хто гэта такое робіць і што за мэта ў яго! Але хто ж вам скажа?! Я ведаю толькі, што для рынка гэта вялікі мінус".

У прадпрымальнікаў, якія больш за іншых пакутуюць ад пагрозаў мініравання, погляд на гэта больш канкрэтны, і звязаны ён з версіяй нядобрасумленнай канкурэнцыі паміж рынкамі.

— Як толькі ў нас "замініруюць", — падзялілася сваімі назіраннямі прадпрымальніца Наталля, — на іншых рынках, у Волатаве, напрыклад, распачынаецца выдатны гандаль. Людзі едуць туды. Мне хваліліся знаёмыя, што такога гандлю не бывае нават перад Новым годам. Гэта можа быць нядобрасумленная канкурэнцыя. Такім чынам можна дурыць людзей кожныя выхадныя дні.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ.**

# Як атрымаць візу ў Польшчу?

*Адказ на такое пытанне шукалі актывісты таварыства "Беларусь—Польшча" на сустрэчы ў Доме дружбы. У размове бралі ўдзел начальнік консульскага аддзела, саветнік Пасольства Польшчы ў Беларусі Анджэй Бучак, начальнік консульска-прававога аддзела Міністэрства замежных спраў нашай краіны Уладзімір Матусевіч, работнікі мытні, турыстычных фірм, журналісты.*

Спадар Анджэй Бучак паведаміў, што ажыятаж вакол афармлення выязных дакументаў, які быў у верасні—кастрычніку, спаў, цяпер ля консульскага аддзела не відаць натоўпу грамадзян. Гэта вынік прынятых мер. Значна павялічаны штат консульскіх работнікаў. Цяпер толькі ў Мінску штодзённа выдаецца 600—700 віз, ды па 500—600 у Брэсце і Гродне, у суме — каля 2 тысяч віз.

Аднак з такім аптымізмам не пагадзіліся прадстаўнікі беларускіх турыстычных фірм. Яны адзначылі, што зрухі да лепшага відавочныя, але праблемы яшчэ застаюцца. Па-ранейшаму даводзіцца губляць шмат часу для атрымання візы, шэраг турыстычных фірм зварочваюць сваю дзейнасць на польскім напрамку, бо не маюць упэўненасці ў тым, што своечасова змогуць аформіць дакументы. А гэта — антырэклама іх працы. Калі чалавек сабраўся ў турыстычную паездку, а яна сарвалася, дык ён ніколі болей не будзе мець справу з такой фірмай.

Так, натоўпу ля консульскага аддзела Пасольства Польшчы няма, але чэргі ёсць. Фірмы самі ўстанавілі і кантралююць паслядоўнасць. Яны прасілі консульскіх работнікаў Пасольства Польшчы павялічыць прыём дакументаў на афармленне.

Цяжкасці з атрыманнем віз найбольш нашкодзілі дзелавым людзям, асабліва прадстаўнікам малога бізнесу. Ім стаяць у чэргах, значыць, несці немалыя страты. Работнікі консульскага аддзела Пасольства Польшчы раілі тым, хто мае дзелавыя стасункі з партнёрамі за Бугам, прасіць іх накіроўваць запрашэнні па факсе прама ў консульскі аддзел. Тады ніякіх праблем пры атрыманні аператыўных віз не будзе.

Некаторыя гаварылі пра затрымкі пры перасячэнні мяжы. Здараецца, што пагранічнікі, мытнікі падоўгу не падыходзяць да тых, хто ў чарзе на мяжы. А паспрабуй зрабіць заўвагу, дык пра цябе могуць наогул "забыць". Як змагацца з такім стаўленнем? Спецыялісты раілі пісаць скаргі ў консульскія службы, каб можна было прымаць рашэнні па кожным такім выпадку. Падобны кантроль грамадскасці дазволіць палепшыць справу.

Ці патрэбна транзітная віза тым, хто едзе праз Польшчу ў Германію, іншыя краіны? Такое пытанне цікавіць многіх. Начальнік консульскага аддзела пасольства Польшчы ў Беларусі Анджэй Бучак адказаў: "Не, не патрэбна". Ёсць добрая навіна для аўтаперавозчыкаў. Раней яны пры перасячэнні Польшчы маглі знаходзіцца на яе тэрыторыі 48 гадзін. Калі здаралася паломка машыны, дык даволі цяжка даводзілася ўкладвацца з рамонтам у такі час. Цяпер гэты тэрмін падоўжаны да пяці дзён.

Прадстаўнік Міністэрства замежных спраў Беларусі зазначыў, што праблемы сапраўды існуюць. Некаторыя турфірмы не могуць прайсці акрэдытацыю. Таму ў канцы месяца ў Брэсце мяркуецца правесці сумесную нараду беларускіх і польскіх работнікаў консульскіх службаў і абмеркаваць шляхі вырашэння ўзніклых праблем.

Удзельнікі дыялога адзначылі, што пагадненне паміж нашымі краінамі наконт віз добрае. Візы каштуюць не вельмі дорага: аднаразовая — 11 долараў, шматразовая — 18, гадавая — 54. Некаторым катэгорыям грамадзян, такім як дзеці да 16 гадоў, пенсіянеры ды іншыя, яны выдаюцца бясплатна. Бакі маюць намер абмеркаваць пытанне наконт больш спрошчанага перасячэння мяжы. Таму цяпер стаіць задача паспяховага ажыццяўлення таго пагаднення ды намераў.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**



**На здымку:** *чарга за атрыманнем візы ў консульства Польшчы ў Гродне.*

**Фота ByMedia.net**

## 32 тысячы дзяцей — сацыяльныя сіроты

*На сёння ў Беларусі жывуць больш як 32 тысячы сацыяльных сірот — дзяцей, у якіх бацькі жывыя. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміла сакратар Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці Алена Заваротнава. Акрамя маральных аспектаў, гэтая праблема носіць і эканамічны характар, адзначыла спецыяліст, таму зараз у краіне ідзе праца па ўмацаванні заканадаўчай базы, якая тычыцца павышэння адказнасці бацькоў пры выхаванні дзяцей і жорсткім абыходжанні з імі.*

Паводле яе слоў, з мэтай зніжэння ўзроўню сацыяльнага сіроцтва ў Беларусі створана сістэма новых сацыяльна-педагагічных устаноў. Так, за 2,5 года ў краіне адкрыты 93 дзіцячыя сацыяльныя прытулкі. Да канца 2004 года плануецца стварыць такія ўстановы ў кожным раёне краіны. Наяўнасць падобных устаноў, на думку спецыяліста, дазваляе паменшыць колькасць дзяцей-беспрытульнікаў і, адпаведна, знізіць узровень дзіцячай злачыннасці.

Алена Заваротнава адзначыла таксама, што большая частка дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, размяркоўваецца ў школы-інтэрнаты і дзіцячыя дамы. Астатнія пападаюць у апякунскія і прыёмныя сем'і. Акрамя таго, у Беларусі сталі з'яўляцца дзіцячыя дамы сямейнага тыпу: на сёння ў краіне дзейнічае 49 такіх дамоў, дзе выхоўваюцца 334 дзіцяці.

Як паведаміў дырэктар рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі дзіцячы фонд" Аляксандр Трухан, першы ў Беларусі дзіцячы дом сямейнага тыпу (у падобных установах жывуць як мінімум 5 дзяцей) быў адкрыты ў 1989 годзе.

**Вольга АСІПЕНКА.**

*Сяргей КАРАГАНАЎ:*

## «У асяроддзі А.Лукашэнкі становіцца ўсё больш людзей з антырасійскімі поглядамі»

Пра гэта заявіў кіраўнік Савета па знешняй і абароннай палітыцы Расіі, намеснік дырэктара Інстытута Еўропы Расійскай акадэміі навук Сяргей Караганаў у інтэрв'ю, апублікаваным 19 лістапада ў "Белорусской деловой газете".

"Мы бачым, — сказаў Караганаў, — што ўсё больш людзей у найбліжэйшым асяроддзі Лукашэнкі або мяняюць свае погляды і пачынаюць прытрымлівацца антырасійскіх кірункаў, або з'яўляюцца людзі, якія адкрыта выказваюць антырасійскія погляды. Раней у такіх поглядах абвінавачвалася апазіцыя, а цяпер мы бачым, што ў значна большай ступені іх выказвае афіцыйнае кіраўніцтва".

На яго думку, рэзкія выказванні Аляксандра Лукашэнкі ў адрас былога кіраўніка Адміністрацыі расійскага прэзідэнта Аляксандра Валошына і яго намесніка Сяргея Прыходзькі — гэта "спроба перакласці адказнасць на расійскі бок за курс, які праводзіць Беларусь, накіраваны на зрыў Саюзнай дзяржавы".

Сяргей Караганаў таксама заявіў, што ў Расіі "ўважліва вывучаюць усе палітычныя сілы" Беларусі. "Мы спадзяемся, мы ўпэўнены, — сказаў ён, — што, калі другі тэрмін прэзідэнта закончыцца, вартая кандыдатура знойдзецца. У Беларусі дастаткова адукаваных, разумных і вопытных людзей, якія змогуць весці яе па шляху мадэрнізацыі, развіцця і інтэграцыі з Расіяй і Еўропай".

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**



**ХОЧУ СКАЗАТЬ...**

## Ищите мотив — и вы получите ключ к раскрытию преступления

До каких пор человек, стоящий во главе Беларуси, в ответ на вопрос о бесследно исчезнувших известных оппозиционных политических деятелях будет демагогически ссылаться на тысячи ежегодно пропадающих без вести? Честное слово, надоело слушать одну и ту же песню о том, почему, мол, такое внимание уделяется только нескольким человекам — они что, лучше других и т.д.

Следует согласиться с г-ном Лукашенко, что пропавшие политики, конечно, не лучше и не хуже других. Просто, в отличие от остальных тысяч исчезнувших, у власти имелись очевидные причины для их устранения. "Ищите мотив, — говорила Агата Кристи, — и вы получите ключ к раскрытию преступления". Именно наличие мотива заставляет власть предержащих в цивилизованных странах как зеницу ока оберегать людей, которые противостоят им в политической борьбе, ибо случись с ними что — и общественность неизбежно поворачивает голову в сторону тех, кому это на руку. Нет ни малейших оснований заподозрить руководство любой страны в желании убрать не имеющего отношения к политической жизни человека, о существовании которого оно попросту ничего не знает, но совершенно иначе выглядит ситуация, когда речь идет о бесспорных лидерах политической оппозиции.

В этом, собственно, и состоит принципиальное отличие. Конечно, наличие мотива еще никоим образом не свидетельствует о виновности. Однако очевидно, что расследование такого рода дел не должно проводиться структурами, полностью подконтрольными власти. А абсолютную зависимость нашей судебно-правовой системы подтвердил сам глава государства во время недавней передачи "Свобода слова" (НТВ), из уст которого открытым текстом прозвучало, что решения следственных органов могут легко отменяться по его личному указанию.

Таким образом, только создание независимой международной комиссии с привлечением зарубежных сыщиков-профессионалов дает шанс пролить свет на события пятилетней давности. Причем иностранные специалисты, безусловно, должны работать в тесном сотрудничестве с белорусскими правоохранительными органами, что одновременно обеспечит взаимный контроль и позволит исключить возможные подозрения в ангажированности обеих сторон. Препятствование же реализации такого предложения может навести на очень серьезные подозрения относительно чистоты препятствующих. Потому что расхожая фраза "Не пойман — не вор" работает только при наличии этих самых "ловцов". Применительно же к ситуации, когда ловить некому, соответствующее утверждение звучит примерно так: "Боишься быть пойманным — вор".

**Владимир КИСЕЛЕВ,**
**инженер.**

*Минск.*

ПУЛЬС

## Дык хто ёсць хто ў Беларусі?

У Мінску, у Музеі беларускай літаратуры, адбылася прэзентацыя даведніка "Хто ёсць хто ў Беларусі — 2004", выдадзенага мінскім выдавецтвам "Мэджык Бук" накладам 3,5 тысячы асобнікаў.

Як паведаміла каардынатар праекта, кіраўнік міжнароднага грамадскага аб'яднання "Беларуская перспектыва" Валянціна Трыгубовіч, з 1999 года даведнік выдаецца чацвёрты раз. За чатыры гады колькасць прыведзеных у выданні персаналіяў, якія актыўна ўплываюць на грамадска-палітычнае жыццё краіны, павялічылася з 360 да 450. Даведнік змяшчае кароткія біяграфіі прадстаўнікоў выканаўчай і заканадаўчай улады, лідэраў партый і грамадскіх арганізацый, дзеячаў навукі і культуры. У новае выданне ўпершыню ўключаны біяграфіі больш за сто чалавек, так што кнігу можна лічыць своеасаблівым маніторынгам кадравых змяненняў у грамадстве, зазначыла Трыгубовіч.

Дырэктар ТАА "Мэджык Бук" Юрый Будзько паведаміў, што пакуль надрукаваныя толькі сігнальныя асобнікі выдання, агульны наклад з'явіцца ў крамах напрыканцы лістапада.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Прыз «За найлепшую гандлёвую марку» — прадпрыемствам Беларусі

Двум прадпрыемствам Беларусі ўручаны міжнародны прыз "За найлепшую гандлёвую марку" 2003 года.

Цырымонія ўзнагароджання, што прысуджаецца Клубам гандлёвых лідэраў са штаб-кватэрай у Мадрыдзе паводле вынікаў апытання кліентаў і спажыўцоў асноўных тавараў і паслуг у розных краінах свету, адбылася 17 лістапада ў Рыме.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе МЗС Беларусі, бронзавая статуэтка міжнароднай прэміі прысуджана Дзяржаўнаму нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" і унітарнаму прадпрыемству ў галіне дрэваапрацоўкі "Вярба" з Маладзечна (Мінская вобласць).

Сярод узнагароджаных — прадпрыемствы з Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі.

**Андрэй СЕРАДА.**

## «СЭР» збіраецца праінспектаваць Падатковы кодэкс

Дэпутацкая група Палаты прадстаўнікоў "Садзейнічанне эканамічнаму развіццю" ("СЭР") мае намер высветліць: ці адпавядаюць Канстытуцыі Беларусі асобныя палажэнні Агульнай часткі Падатковага кодэкса? Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў кіраўнік групы "СЭР" дэпутат Кірыл Халопік.

"Сусветная практыка паказвае, што калі такая сітуацыя ўзнікае і падаткаплацельшчык не згодны з рашэннем падатковых органаў, падатковыя органы звяртаюцца ў суд. У Падатковым кодэксе прапісана, што рашэнне ў такіх сітуацыях прымае падатковы орган, а плацельшчык можа аспрэчыць гэтае рашэнне ў судзе. У нас ёсць сумненні, што гэтая норма адпавядае Канстытуцыі", — патлумачыў К.Халопік.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## У Грузіі будуць менш іграць у більярд

Рашэннем суда канфіскавана і вернута ў даход дзяржавы партыя більярдных сталоў коштам каля 115 млн. рублёў, якая перавозілася з Латвіі ў Грузію. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта (ДМК) Беларусі, більярдныя сталы і прылады да іх былі затрыманыя мытнікамі пры праверцы вялікагрузнага аўтамабіля "МАН" у канцы кастрычніка ў пагранічным пункце мытнага афармлення "Новая Рудня" на беларуска-ўкраінскай мяжы — у зоне дзейнасці Мазырскай мытні (Гомельская вобласць).

Паводле інфармацыі мытнікаў, перавозчык прадставіў мызырскім мытнікам таварасуправаджальныя дакументы, у адпаведнасці з якімі адпраўнікам тавару з'яўлялася амерыканская фірма. Падчас правядзення аперацый мытнага кантролю быў зроблены запыт у Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША. У выніку мытнікі атрымалі звесткі аб тым, што амерыканская фірма з пачатку 2002 года не мае права весці гаспадарчую дзейнасць па прычыне нявыплаты запазычанасці падатковым органам штата Дэлавер. Як адзначаюць у прэс-службе ДМК, выяўленыя парушэнні сталі падставай для затрымання тавару, складання пратакола і далейшага разбору ў судзе.

**Аляксей АРЭШКА.**

## У Баранавічах узнавілі медвыцвярэзнік

У наступным годзе ў Баранавічах, якія амаль год жылі без медыцынскага выцвярэзніка, зноў з'явіцца гэтая ўстанова.

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка Баранавіцкага ГАУС падпалкоўнік міліцыі Аляксандр Сакута, 1 снежня медвыцвярэзнік уедзе ў былы будынак скурна-венералагічнага дыспансера, а пасля рамонту, у сярэдзіне студзеня 2004 года, пачне прымаць кліентаў. Новы медвыцвярэзнік будзе большы за ранейшы і зможа прымаць адначасова 20—25 чалавек.

"Мы захавалі ўвесь штат выцвярэзніка, усю мэблю і абсталяванне. Так што ўстанова проста змяніла адрас", — сказаў Аляксандр Сакута.

**Таццяна ГРЫНКЕВІЧ.**

## Юбілейны канцэрт Ірыны Дарафеевай

21 лістапада ў Мінску, у Палацы Рэспублікі, пройдзе юбілейны канцэрт Ірыны Дарафеевай. Ён мае назву "Каханачка" і прысвечаны 10-годдзю творчай дзейнасці спявачкі.

Як расказала Ірына Дарафеева на прэс-канферэнцыі з нагоды канцэрта, ідэя правядзення юбілейнага шоу наспела даўно. Спявачка зазначыла, што ў яе быў вялікі тур па Беларусі, у рамках якога яна дала больш за 400 канцэртаў. Паводле яе слоў, канцэртная праграма складаецца з песняў па-беларуску, бо гэта "нацыянальнае шоу", а таксама зусім новых сучасных кампазіцый у "больш маладзёжным фармаце" на рускай мове.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

# Дзед

## Былы партызан са Слаўгарада хоча бачыць Беларусь вольнай і дэмакратычнай

*Здаецца, што ў яго родным горадзе толькі тэлеграфныя слупы не вітаюцца з ім. Кожны сустрэчны ўсміхаецца яму, ветэрану вайны, былому партызану, і пытаецца: "Як жывеш, Уладзіміравіч?"*

*Ён можа зайсці ў любы кабінет райвыканкама і завесці з чыноўнікам дыскусію аб шкоднасці існуючай у Беларусі ўлады альбо сесці ў свой ярка-жоўты "Запарожац", які мясцовыя жыхары з жартам называюць БМВ, і памчацца на ўсіх парах куды-небудзь у вёску: збіраць матэрыял для чарговых нататкаў альбо проста купіць малака ў знаёмай бабулі.*

*77-гадовы* **Фелікс Уладзіміравіч ШКІРМАНКОЎ** *атрымаў сваё імя ў гонар вядомага "жалезнага Фелікса", але лічыць яго "верным паслугачом камуністычнага рэжыму".*

*У прыхожай цаглянай хаце Фелікса Уладзіміравіча ў падсвечніку замест свечкі красуецца невялічкі бел-чырвона-белы сцяжок, над дзвярыма — вялікі герб "Пагоня". Размаўляе Фелікс Уладзіміравіч выключна па-беларуску, хаця яго жонка Вера Васільеўна — руская, а большасць жыхароў 8-тысячнага Слаўгарада карыстаюцца, калі не "великим и могучим", то звыклай для гэтых месцаў "трасянкай"...*




**— Фелікс Уладзіміравіч, ведаю, што Вы ў гады вайны, нягледзячы на свой юны ўзрост, партызанілі ў мясцовых лясах, маеце шмат дзяржаўных узнагарод. Што Вы згадваеце з тых часоў і які ўплыў тая вайна мае на Ваша сённяшняе жыццё?**

— Вайна для мяне пачалася з першага ж яе дня — 22 чэрвеня 1941 года. Паколькі яшчэ ў студзені я ўступіў у камсамол (дарэчы, нічога дрэннага не магу сказаць пра тую маладзёжную арганізацыю), то гэта адразу ж вызначыла мой лёс: у 15-гадовым узросце я трапіў у так званыя знішчальныя батальёны, якія мусілі выяўляць і змагацца з нямецкімі парашутыстамі-дыверсантамі. Так пачыналася мая ваенная "кар'ера"... Потым я ваяваў у партызанскай брыгадзе імя Даватара, а скончыў вайну ў Празе ў маі 45-га. Дарэчы, сваю вайну я падрабязна апісаў у кнізе "Выпрабаванне", якая выйшла ў свет да 50-гадовага юбілею Перамогі. За чатыры гады я атрымаў чатыры раненні, сярод баявых узнагарод маю ордэн Чырвонага сцяга. Атрымаў яго за тое, што ў якасці камандзіра ўзвода інжынернай разведкі Першай гвардзейскай арміі разам са сваімі байцамі на працягу сямі гадзін утрымліваў пераправу і адбіваў яе ад гітлераўцаў.

Што тычыцца сувязі ваенных часоў з цяперашнім часам... Наша дзяржава вельмі сціпла дзякуе сваім ветэранам за крывёй здабытую Перамогу. На словах, праўда, выказвае гэта, а на справе... Нашы кіраўнікі кажуць: мы, маўляў, у неаплатным даўгу перад ветэранамі. Але ў мяне кожны раз узнікае пытанне: хто на працягу ўжо шасцідзесяці гадоў перашкаджае вярнуць гэты доўг?

Але нас, старэйшае пакаленне, выпрабаванні ваеннага часу навучылі цаніць працу чалавека, жыццё, прыходзіць на дапамогу іншым. Навучылі мяне змагацца супраць несправядлівасці і не баяцца казаць праўду ў вочы кожнаму незалежна ад яго пасады. Навучылі не дазваляць нікому абражаць і зневажаць цябе. Вось такія ўрокі вынес я з ваеннага пекла.

**— Пасля вайны Вы доўгі час працавалі геолагам на Калыме. Наколькі той перыяд паўплываў на фарміраванне Вашага цяперашняга характару?**

— Калыма — гэта амаль усё маё працоўнае жыццё — 25 гадоў. І яны былі для мяне каштоўнай школай, якая адкрыла вочы на шмат рэчаў. Напрыклад, высветлілася, што на Калыме, дзе жылі тысячы і тысячы зэкаў, многія аказаліся людзьмі з вялікай літары. Сустрэчы з імі прывялі да пераканання, што чалавек мае права на ўласную думку, як і права яе выказваць і прытрымлівацца яе — няхай яго думкі не будуць супадаць з афіцыйнымі.

**— Большую частку свядомага жыцця Вы пражылі ў Расіі, на Поўначы. Тым не менш дзесяць гадоў таму пачалі размаўляць па-беларуску...**

— Гэта — прынцыповая пазіцыя. Не буду хаваць: у свой час я быў у камсамольскім і партыйным кіраўніцтве, працаваў у Слаўгарадскім райвыканкаме, выбіраўся ў партыйнае бюро ад свайго прадпрыемства, бо быў ідэйна, як кажуць, падкаваны ў марксісцкім духу, у якім выхоўваліся савецкія людзі. Але з цягам часу, ужо напрыканцы 80-х, не толькі да мяне, а і да іншых пачало даходзіць нешта такое, што раней было за трывалай "жалезнай заслонай"...

Аказалася, што капіталісты зусім не такія монстры, якімі іх малявала савецкая дзяржаўная прапаганда. Высветлілася таксама, што ў свеце існуюць і іншыя палітычныя і эканамічныя сістэмы жыцця і гаспадарання, якія даюць людзям магчымасць жыць годна, намнога лепш за нас. У тыя гады я, ужо немалады чалавек, даведаўся, што гісторыя Беларусі пачынаецца зусім не ў кастрычніку 1917-га, а куды раней, сягае ў глыбіню стагоддзяў. Што гэта гераічная гісторыя народа, які меў і мае сваю спадчыну, сваю культуру, сваю мову. І такое невычэрпнае багацце ад нас хавалі?! У мяне ўнутры нешта ўскалыхнулася: я ж, аказваецца, таксама ад гэтага славутага роду ліцвінскага!

Аднойчы сасніў, быццам я размаўляю на сваёй прыроднай — беларускай мове. Падумаў: а чаму толькі ў сне? Пачаў яго здзяйсняць. Спачатку было цяжка, але нічога, хутка ўсё стала на сваё месца... Рэштку свайго жыцця прысвячу таму, што ўсімі сіламі і ўсюды буду бараніць і падтрымліваць нашу беларушчыну. Само сабою, не абражаючы пры гэтым ніякую іншую мову і культуру.

**— Ваша жонка Вера Васільеўна, якая нарадзілася ў Пярмі, прызналася мне, што дзякуючы Нілу Гілевічу і яна пачала разумець беларускую мову. Як яна ставіцца наогул да Вашага захаплення беларушчынай?**

— Як усялякі цывілізаваны і адукаваны чалавек. Больш за тое, часам яна мяне папракае, калі, бывае, я да яе звяртаюся па-руску...

**— З 1991 па 1996 гады Вы працавалі старшынёй Слаўгарадскага гарадскога Савета, мелі доступ да немалых матэрыяльных рэсурсаў. Многія чыноўнікі даўно пабудавалі сабе палацы, набылі "Мерседэсы". А пра Вас чуў ад мясцовых жыхароў: "І ён у той час мог браць, як і ўсе, але не браў..."**

— Гэта мае прынцыповае стаўленне да справы: калі маеш уласны гонар і годнасць, то як ты можаш браць хабар альбо даваць яго? Быў у маёй кар'еры выпадак, калі прыйшоў да мяне чалавек — бедны чалавек — і ў знак удзячнасці за тое, што атрымаў кватэру, прынёс мне пачак грошай. Пачуўшы рашучую адмову, кінуў мне гэты пачак на калені. Я затрымаў чалавека, выклікаў сакратара. Грошы яму вярнулі, а я сказаў: "Ніколі больш так не рабі!"

**— Чуў, Вы сышлі з пасады старшыні гарсавета ў 1996 годзе добраахвотна і з нязвыклай для тых часоў фармулёўкай. З якой?**

— Калі Лукашэнка пазбавіў мясцовыя Саветы рэальнай улады і ўсе паўнамоцтвы былі сканцэнтраваны ў руках "вертыкалі", гарадскі Савет ператварыўся ў марыянетку. Седзячы ціха, я мог і надалей займаць гэтую пасаду, але ніякага пытання самастойна вырашыць не змог бы. Сумленне прадыктавала мне заяву: *"Прашу вызваліць мяне з пасады старшыні гарсавета ў сувязі з нязгодай з антынародным і антыбеларускім палітычным курсам прэзідэнта Лукашэнкі".*

**— Кажуць, дзякуючы менавіта Вам пасля чарнобыльскай катастрофы жыхары Слаўгарада даведаліся пра ўзровень сапраўднага радыяцыйнага забруджання ў раёне...**

— Калі я кіраваў гарадскім Саветам, запрасіў праз Беларускі дзяржуніверсітэт з кафедры радыяцыйнай хіміі спецыяльную групу навукоўцаў для дэталёвага абследавання кожнага падворка ў Слаўгарадзе. Вынікі гэтага даследавання былі надрукаваны ў раённай газеце, і кожны мог даведацца пра тое, якая канкрэтна небяспека яму пагражае і чаго трэба асцерагацца.

**— Пераканаўся, што мясцовы люд Вас вельмі паважае, некаторыя называюць ласкава — "дзед"...**

— На самай справе я ўжо не толькі дзед, а і прадзед. У мяне два праўнукі. Старэйшаму дзесяць год, ён ходзіць у трэці клас.

**— Вы актыўна ўдзельнічалі ў прэзідэнцкай кампаніі 2001 года — у падтрымку кандыдатаў ад апазіцыі. За гэта Вас і Вашых сяброў-аднадумцаў неаднаразова цягалі ў пастарунак. Не шкадуеце?**

— Не. Гэта мая грамадзянская пазіцыя. Я лічу, што сённяшні кіраўнік дзяржавы — не той чалавек, які павінен быць на гэтай высокай пасадзе. Я за яго не галасаваў. Краіне патрэбен чалавек, які будзе годна прытрымлівацца Канстытуцыі і законаў на карысць Рэспублікі Беларусь. Аб такім лідэры я мару, і таму ціхенька сядзець, як мыш пад венікам, не магу.

**— Вы мне казалі раней, што, у адрозненне ад шматлікіх прадстаўнікоў цяперашняй улады, Вы спіце спакойна. А чаму?**

— Займаючы ў сваім горадзе пасаду кіраўніка, я не зрабіў нічога, за што мяне можна было б прыцягнуць да адказнасці па нейкім артыкуле Крымінальнага кодэксу. На маім сумленні чорных плямаў няма. А хто баіцца страціць сваю "кармушку", таму не да сну...

**— Калі мы з Вамі разам учора наведвалі адзін высокі кабінет у райвыканкаме, яго гаспадар катэгарычна адмовіўся ад дзелавой гутаркі: маўляў, калі яго імя з'явіцца ў "Народнай волі", то яго адразу ж здымуць з пасады. Скажыце, гэта адлюстроўвае сітуацыю ва ўладзе на месцах?**

— Так, цалкам. Страх сёння пануе ва ўсіх дзяржаўных кабінетах.

**— Цікава, што такі сур'ёзны чалавек, як Вы, яшчэ і вершы піша...**

— Я, канешне ж, не лірык, пішу часцей у грамадзянскім накірунку. Каб выказаць нешта прозай, патрэбна шмат слоў. А бывае, што вершаванае чатырохрадкоўе вартае пяці машынапісных старонак прозы.

**— А можаце прачытаць свой любімы верш пра Радзіму?**

— Канешне. Называецца ён "Любы край":

*Колькі б слоў пра цябе ні гучала,*
*Пра тваю, Беларусь, прыгажосць,*
*Я упэўнены — гэтага мала,*
*Яшчэ многа нясказаных ёсць.*
*Ад цябе, любы край, ў захапленні,*
*Не дадуць табе людзі згібець.*
*І сыноў тваіх лепшых памкненні*
*На зямлі тваёй будуць квітнець.*

**— Фелікс Уладзіміравіч, на Вашу думку, ці гатовы сёння народ у правінцыі да перамен?**

— Калі па праўдзе, то залішняга аптымізму ў мяне на гэты конт няма. Людзі недасведчаныя ў тым, што і чаму адбываецца ў краіне і як гэта можна змяніць. Нездарма ж улады так паслядоўна глушаць недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

Асабліва сумная сітуацыя на вёсцы: людзі выміраюць цэлымі сем'ямі. Тыя, хто яшчэ неяк трымаецца, страшэнна п'юць: п'е жонка, п'е муж. Ці можа ў такой сям'і нарадзіцца здаровае дзіця? Пад пагрозай — генафонд нацыі. Такія небаракі не атрымліваюць амаль ніякіх заробкаў, але ніхто з іх не крычыць: людцы добрыя, давайце збяромся разам і паставім перад уладамі пытанне рубам — колькі можна здзекавацца з народа? У іх адно ў галаве: як дзе штонебудзь скрасці? Вось такія якраз аб'ектыўна і патрэбны ўладзе — каб маўчалі і ні аб чым "такім" не думалі. Калі нехта з апазіцыі лічыць, што варта правесці з такімі гутарку — і яны ў адказ запляскаюць у ладкі і падтрымаюць іх на выбарах, то гэта, лічу, памылка, самападман! Тут трэба карпатлівая, сістэмная работа.

Але, нягледзячы ні на што, я ўсё ж не сумняваюся, што ў рэшце рэшт мы дойдзем да сапраўднай Беларусі, што наша Радзіма будзе вольнай і дэмакратычнай. Дажыць бы толькі!

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота аўтара.**

*Магілёўская вобласць.*

# Козулина обвинили...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Василий Стражев, который держал слово после главы президентской Администрации, говорил об учебном процессе, о том, что если его не менять, то через 5—7 лет мы безнадежно отстанем от современного мира. В заключение своего выступления новый ректор отметил, как высоко он ценит то, "что сделал для университета Александр Владиславович", и, пожелав ему "успехов в дальнейшей жизни", преподнес Козулину шикарный букет роз.

Министр образования Александр Радьков хотел поставить точку в этом мероприятии и в свою очередь вручил букет цветов Василию Стражеву. Но Александр Козулин, которого в президиум не пригласили, с места обратился к залу: "Может, мне слово дадите?" и вышел на трибуну:

*— Очень "приятно" было сегодня выслушать обвинения, по которым меня освободили от должности.*

*Меня обвиняют в том, что я не мог создать классический университет. Надо просто читать и знать, что такое классический университет. Конечно же, я постарался, став ректором, восстановить именно это понятие.*

*Если мы вспомним, что такое классический университет и то, какие в его основе были факультеты, то я постарался эти факультеты вернуть обратно в стены нашего университета. Более того, европейский и мировой опыт об этом однозначно свидетельствуют. И если у нас, в нашем государстве есть непонимание, что такое классический университет и как он должен развиваться, если мы не хотим учитывать передовой мировой опыт, то и наша сермяжная правда будет в том, что мы будем находиться там, где мы находимся.*

*Мне говорили: зачем тебе фундаментальная медицина? Я написал справку на шести листах, но мне сказали потом, что она никуда не годится. Но в России уже в 20 университетах открыты медицинские факультеты. Я привел пример, что в Санкт-Петербургском университете в 1992 году, в МГУ в 1995 году открыты эти факультеты. Причем в Санкт-Петербургском — это лечебный факультет, со всеми специальностями, которые есть в нашем Минском медицинском университете.*

*Мы подписали конкретные решения о том, что в БГУ открывается отделение фундаментальной медицины МГУ. И уже со следующего года, если эти договоренности будут выполняться, будет проходить набор на это отделение по учебным планам Московского государственного университета с выдачей в дальнейшем диплома МГУ и БГУ. Может, кто-то скажет, что опыт МГУ вряд ли соответствует уровню классического университета и БГУ? Но это сложно будет сделать.*

*Надо просто хорошо читать историю и знать ее. И знать историю и своего народа, и своего государства, и своего университета. Первый ректор БГУ тоже был и членом правительства. И ничего нового нет. Когда надо придать необходимый толчок в развитии Национального университета, ректору даются особые полномочия. Для того, чтобы он мог решать конкретно, четко и в менее зависимой манере.*

*Национальному университету всегда дается право на поиск. На развитие новых идей, новых направлений. И, конечно же, на пути этого поиска можно ошибаться. Но ведь никто не знает, что будет в результате этого поиска. Сразу никогда не получается конфетка.*

*Когда говорят, что у нас идет снижение качества образования, конечно же, Урал Рамдракович прав, что у нас не все хорошо с подготовкой иностранных языков. Мы на своем совете этот вопрос ставим более жестко и сами себя критикуем. Но ведь не наша вина, что иностранные языки раньше никак не были востребованы. И сегодня катастрофическая проблема с преподавателями иностранных языков в нашей стране, процент преподавателей со степенями меньше 8 процентов. Это проблема не наша, а государства, и к ней надо подходить как к государственной и понимать, что за этим будет.*

*Я думаю, что ни один университет на просторах Беларуси столько не сделал, сколько сделали мы в области изменения учебного процесса и в области улучшения качества образования. Мы уже 5 лет и денно и нощно работаем над этим всем. Мы уже почти дошли до того, чтобы изменить психологию наших преподавателей.*

*Витки эволюции исторически повторяются, и, видимо, не все новое, передовое, может быть, воспринимается и сегодня. Но, как обычно и всегда, удел сильных торить дорогу, пробивая непонимание, заставляя думать, заставляя осознавать те или иные процессы и, самое главное, осознавать самих себя. Я абсолютно уверен в том, что те движения, которые происходят, — это нормальная школа жизни, нормальные университеты, которые прохожу я и, думаю, проходите вы вместе со мной. Университет не может себе позволить каких-то революций, какого-то бунтарства, потому что мы пахали и работали, не щадя своих сил и здоровья не ради этого, а ради того, чтобы сохранить стабильность, уверенность, сохранить будущее нашего университета, на основе которого, конечно же, будет расти и осознание, и понимание будущего и перспектив развития Беларуси.*

*Я уже говорил и, наверное, сегодня в последний раз хочу сказать: не забывайте, что вы являетесь членами университетского сообщества, никогда не забывайте, что вы являетесь членами великого университетского братства. И только корпоративная университетская солидарность, только помощь друг другу, только, сжав руки, сомкнув локти и смотря честно и прямо друг другу в глаза, мы можем двигаться дальше. Спокойно, уверенно строя свое собственное будущее и будущее нашей страны и нашего государства.*

*Жизнь не стоит на месте, мы не зря на стенах зала нарисовали витки эволюции. Каждую ступень надо преодолевать. Будем считать, что вы посылаете меня на новый виток эволюции и в новую школу жизни, в новые университеты, которые мне предстоит пройти. Спасибо всем.*

Зал стоя аплодировал Козулину. И, как во время встречи со студентами, у него снова появились на глазах слезы. Забыв цветы, Козулин быстренько вышел из зала.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



*Станцуем, даражэнькая...*

**Фота ByMedia.net**

АКЦЫЯ

## «Мы — супраць рэферэндуму!»

Незарэгістраваная арганізацыя "Малады фронт" працягвае рыхтаваць акцыю, прымеркаваную да 7-й гадавіны рэферэндуму 1996 года. З моманту падачы заяўкі на акцыю маладафронтаўскі пратэст атрымаў якасна новае вымярэнне — быў сабраны шэраг подпісаў супраць рэферэндуму розных дзеячаў беларускай апазіцыі. Менавіта таму, што тэма рэферэндуму зараз вельмі актуальная для Беларусі, пад зваротам да суайчыннікаў свой подпіс паставілі заўзятыя апаненты.

Як заявіў журналістам **Павел СЕВЯРЫНЕЦ**, акцыя "Мы — супраць рэферэндуму!", прымеркавана да магчымага трэцяга рэферэндуму не выпадкова.

*"Першы быў у 1995 годзе, другі — у 1996-м. Абодва рэферэндумы сфарміравалі сённяшнюю, па сутнасці аўтарытарную дыктатуру ў Беларусі, трэці рэферэндум можа ператварыць гэты аўтарытарны лад у таталітарны, таму што, калі зняць для прэзідэнта абмежаванні абірацца на пасаду, то гэта цалкам можа скончыцца Паўночна-карэйскім ці кубінскім варыянтам".*

Менавіта таму незарэгістраваная арганізацыя "Малады фронт" і вырашыла ладзіць гэтую акцыю. Павел Севярынец таксама адзначыў: *"Нам здаецца, што апазіцыя паводзіць сябе даволі пасіўна, бо толькі нейкія дзеянні Лукашэнкі выклікаюць нейкі, прычым даволі слабы адказ з боку апазіцыі. Тая апазіцыя, якая не будзе мець ініцыятывы, яна проста не будзе мець перамогі".*

Але незарэгістраваны "Малады фронт" здолеў аб'яднаць усе апазіцыйныя групы, нават і тыя, якія знаходзяцца ў вялікіх супярэчнасцях паміж сабой.

Зварот з заклікам падтрымаць акцыю, пачатак якой плануецца на 24 лістапада, падтрымалі вядомыя палітыкі і грамадскія дзеячы. Сярод іх Анатоль Лябедзька, Алесь Бяляцкі, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Станіслаў Шушкевіч і іншыя.

Сталі вядомы некаторыя падрабязнасці акцыі. Па словах Паўла Севярынца, акцыя адбудзецца пры любым надвор'і і пры любым рашэнні Мінгарвыканкама. Падчас акцыі плануецца ажыццявіць своеасаблівае галасаванне. Прысутным будзе прапанавана адказаць на пытанне: *"Якім вы бачыце трэці тэрмін для Лукашэнкі?"* Прычым варыянты адказаў могуць быць самыя розныя...

Па словах Зміцера Дашкевіча, аднаго з заяўнікаў акцыі, за распаўсюджванне агітацыі на 15 сутак арышту быў асуджаны Артур Фінкевіч — адзін з ініцыятараў акцыі. Усяго затрымана 9 чалавек, якія распаўсюджвалі агітацыйныя матэрыялы, прымеркаваныя да акцыі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СУД!

## ...Чтобы стать дальнобойщиком

*Посетители зала заседаний суда Советского района Гомеля при рассмотрении одного уголовного дела могли узнать о весьма необычных правилах приема на работу водителей-международников в РАУП "Гомельоблавтотранс". Кстати, это один из основных автоперевозчиков области. В ходе заседания выяснилось, что основанием для зачисления в дальнобойщики были не профессиональные качества и опыт работы, а... объем кошелька претендента.*

Находившиеся на скамье подсудимых (хотя до вступления приговора в законную силу бывшие подсудимые считаются обвиняемыми) заместитель генерального директора предприятия Ольга Новикова и начальник отдела международных грузовых перевозок Раиса Король на протяжении двух лет давали добро на занятие рабочего места в кабине "фуры" только после "вступительного взноса" в тысячу долларов. Такой взнос поступал, естественно, в карманы должностных лиц. Если водитель не имел возможности сразу внести столь значительную сумму, допускалась оплата в рассрочку. Применялся и такой метод расчета, как подпись принятого на работу на чистом бланке расходного кассового ордера в получении командировочных расходов в валюте. О суммах, полученных затем должностными лицами в кассе предприятия, водители знать не знали. Такие "взносы" суд в приговоре назвал "по предварительному сговору неоднократно принимаемым материальным вознаграждением от подчиненных за покровительство по службе, а также за благоприятное решение вопросов по трудоустройству". Из этой цитаты можно догадаться — речь идет о получении взяток.

Третий обвиняемый — уроженец солнечного Кавказа, а ныне трудящийся Беларуси Мухтар Максимов никак не вписывается в рамки должностного лица. Но несмотря на рабочую специальность — водитель, обвинение Мухтару было предъявлено по двум статьям Уголовного кодекса. Подстрекал водителей, желающих устроиться на престижную работу, к даче взяток должностным лицам — одна статья. Получал от водителей суммы для передачи валюты должностным лицам и расходовал их на свои нужды — другая, но не менее "тюремная". Называется — мошенничество.

Виновность всех троих в преступной деятельности полностью доказана в ходе судебного заседания государственным обвинителем и тремя весьма объемными томами уголовного дела.

Своим приговором суд конвертировал полученные суммы в валюте по курсу Уголовного кодекса. Экс-начальницы лишены свободы на пять лет и в течение трех лет после отбытия срока лишены права занимать должности, связанные с организационно-распорядительными функциями. Интересно, кто рискнет после полного отбытия наказания назначить их на подобные должности?

Водитель своих прав на "баранку" не лишился, но пять с половиной лет проведет в исправительной колонии усиленного режима. Имущество всех осужденных конфисковано в доход государства.

**Валерий КОЗУБОВ.**



*Падзеі Слуцкага збройнага чыну ў лістападзе далёкага ўжо 1920 года абуджаюць нашу гістарычную памяць. Чарговым угодкам гэтых гераічных і разам з тым трагічных падзей прысвячае свой новы паэтычны твор вядомы беларускі паэт, ураджэнец старажытнага Слуцка Яўген ГУЧОК. У яго паэме трохрадкоўяў гучаць галасы слуцкіх паўстанцаў, якія мелі мужнасць і самаахвярнасць бараніць сваю зямлю і волю.*

*Твор заснаваны на дакументах і ўспамінах жыхароў Случчыны. Друкуецца ў скарачэнні.*

***Яўген ГУЧОК***

*Светлай памяці герояў і ахвяр Слуцкага паўстання*

# Галіна з дрэва Кастуся

*Паэма*

*...Як народ — народ мы Божы,*
*Як паўстанцы —*
*Спараджэнне Польшчы і Расеі.*

*Крышыць нас Польшча,*
*Зжывае са свету Расея...*
*Адказам на гэта —*
*паўстанне наша.*

*Для Захаду і Ўсходу*
*Мы — адшчапенцы і сепаратысты,*
*Для Беларусі ж роднай —*
*патрыёты.*

*Дом Вайніловіча у Слуцку —*
*Сягоння*
*Усенародны дом.*

*Мы ім перагароджваем шляхі,*
*Ім, што прыроды супраць*
*Замахнуліся.*

*І што ім патрэбна ад нас?*
*Каб у роднай зямлі*
*Мы уніз галавой тырчэлі.*

*За што пайшлі змагацца слуцакі?*
*Каб іх зямля і душы*
*Не зарасталі і не дзірванелі.*

*Сурвэтка, насоўка, ручнік і абрус*
*Хай поўняцца духам*
*Штандара паўстання!*

*Хопіць ужо "выбівацца ў людзі" —*
*У расейцаў, палякаў;*
*Час сапраўднымі беларусамі быць.*

*Салёны пот*
*І наша кроў салёная —*
*Саюзнікі у нашай барацьбе.*

*Наш выстуджаны дом*
*Сагрэцца можа бітвай*
*За свабоду.*

*Сягоння Слуцкая раўніна —*
*Прасвет адзіны ў цёмным небе*
*Беларусі.*

*Былое княства ператворым*
*у рэспубліку,*
*А там, глядзіш, —*
*І Беларусь прачнецца.*

*Паўстала Случчына славутая;*
*Славутая ў мінулым Беларусь.*
*Чаго марудзіш? Далучайся!*

*Слуцак сёння — сталіца паўстання*
*Паняволенай Беларусі...*
*Паспяшайцеся у сталіцу!*

*Вунь трава не шукае*
*Пад снегам сховішча...*
*Дык чаго ж вам хавацца ад ворага?*

*Пад бел-чырвона-белым сцягам*
*І слова наша —*
*Бел-чырвона-белае.*

*Прыгожы народ на Случчыне,*
*А зброя за вольнасць*
*Шчэ больш прыгажэйшым*
*робіць яго.*

*Каб Беларусь жыла,*
*Быць шчырым беларусам — мала,*
*Зацятым беларусам трэба быць.*

*Тут не захад, не Ўсход Беларусі;*
*Тут сярэдзіна —*
*Сэрца яе.*

*Тут справа не ў сваёй кашулі,*
*Тут справа волі, і Радзімы,*
*І душаў, што да іх імкнуцца.*

*Не ўлегцы гэты дзед сюды прыйшоў:*
*Няма хай стрэльбы —*
*Мех мукі не перашкодзіць...*

*Астатнія паветы Беларусі,*
*Не будзьце ворагу*
*Надзейным тылам!*

*Сягоння слуцкія настаўнікі*
*Усіх усцяж паўстанню*
*Вучаць.*

*...Мы ў Боскі свет акно,*
*А вось дывізіі паўзуць*
*Яго знявечыць і забіць.*

*А калі родная царква —*
*Дык і за зброю нашу*
*Яна рупліва правіць набажэнства.*

*І святая Сафія Слуцкая,*
*Як заўсёды, і сёння*
*З намі.*

*Хто б мог падумаць —*
*Чалавек раўніны*
*Змагацца можа, нібы горац.*

*Каго — карты,*
*Каго — гарэлка;*
*Нас хвалюе свабода і Беларусь.*

*Нідзе такіх прыгажуноў няма,*
*Як сёння тут —*
*У брыгадзе Слуцкай.*

*Сягоння тут*
*І гонар Беларусі*
*Адраджаецца.*

*Тут нараджаюцца*
*Новыя*
*Людзі.*

*У іх адна узнагарода —*
*Ізноў у бой ісці*
*За Беларусь і за свабоду.*

*Нашы коні — ад плуга,*
*Ды ў бойцы яны скакунам*
*не саступяць...*
*Шкада, што іх мала у нас.*

*Нашых коней прышпорваць не трэба,*
*Яны самі прышпорваюць*
*Вас.*

*Ні фельдфебеляў, ні генералаў...*
*У нас толькі*
*Паўстанцы-героі.*

*Ні дапрызыўнікаў, ні прызыўнікоў...*
*Складаюць нашы шэрагі*
*Добраахвотнікі...*

*Паўстанцам слуцкім быць —*
*Не па паркетах*
*Гойсаць.*

*І холадна, і валіць снег,*
*І ворагі з усіх бакоў.*
*А у душы — вясёлка.*

*Так, мы — галіна з дрэва Кастуся,*
*Калісьці ссечанага*
*Дрэва.*

*Як калісь Кастусёвых вояроў,*
*Маскоўцы нас бандытамі*
*Завуць.*

*Якія гонар і пашана:*
*Нас называюць "бандай беларусаў".*
*Як вояў Каліноўскага калісьці.*

*Кацярына у Слуцку турму збудавала,*
*Вядома, на ўвазе маючы*
*Й нас.*

*Паўсталі нашы людзі*
*У Рослаўльскай турме*
*І абвясцілі Слуцкую Рэспубліку.*

*І на Тамбоўшчыне паўсталі*
*Былыя высяленцы*
*З Беларусі.*

*Ад Смаленска да Беластоку*
*Каб жа рушыў сюды беларус,*
*Не хапіла б у іх дывізій.*

*...Растала Беларусь*
*На захадзе і ўсходзе,*
*І толькі Слуцак*
*з наваколлямі трымаецца.*

*Ва ўсе бакі ад Слуцка*
*Усяго якіх паўсотні кіламетраў —*
*І беларускі дух ўжо не лунае.*

*Ты клікаў нас, паэт-прарок;*
*Цяпер цябе мы клічам*
*Да сябе.*

*А дзе прарок наш, дзе паэт?*
*Чаму няма Купалы*
*Паміж намі?*

*Браты, калі ад вас не будзе дапамогі,*
*Шчэ горш, чым мы,*
*Жыць будуць вашы дзеці і унукі.*

*Даслаць нам сцяг —*
*То добра, але мала...*
*Вы самі паспяшайцеся сюды.*

*Белы пан і чырвоны чын*
*З былой эстафетай варожасці*
*Між нас, беларусаў, гойсаюць.*

*Бы печаную бульбу,*
*З маскоўскай на варшаўскую далонь*
*Нас лёс наш горкі перакідвае.*

*Што польскі пан,*
*Што камісар маскоўскі —*
*Аднолькавы яны для Беларусі.*

*А Захад што маўчыць?*
*А што не шкне Еўропа?*
*Іх больш хвалююць акцыі грашовыя.*

*А ці не Еўропу мы*
*Ратуем сёння*
*Ад манголаў?!*

*Шчыруюць-завіхаюцца*
*ў Варшаве і Маскве,*
*На Беларусі каб не пахла*
*Беларусам.*

*Нас будуць выдаваць:*
*Варшава — у Маскву,*
*Ну а Масква — ў Варшаву.*

*З вялікай літары запішуць беларуса*
*І Бог, і Захад, і Усход,*
*Калі ён у паўстанні пераможа.*

*Не пераможам —*
*Зруйнуюць цэнтр у Слуцку,*
*Як калісь ў Бабруйску ці ў Бярэсці.*

*Як Случчыну не адстаім,*
*Дык Беларусь у назве,*
*Можа, толькі застанецца.*

*Мы з апошніх, відаць, беларусаў,*
*Што са зброяй бароняць*
*Свой край.*

*Ад пустазелля Случчыну,*
*Мой Божа, барані;*
*Шчэ болей барані ад здрайцаў.*

*Ад тых няшчаднасць*
*атрымае здраднік,*
*Каму ён здрадай*
*Учыніў паслугу.*

*Замест таго,*
*Каб дух свой уздымаць у неба,*
*Яны чарвямі дажджавымі*
*лезуць у зямлю.*

*Хто адвернецца ад паўстання,*
*Таму месца*
*У мыцельніку ці качарэжніку.*

*Нас паб'юць, пастраляюць,*
*Мы пачэсна ў зямлю паляжам,*
*А вам на зямлі на каленях жыць.*

*Нас разаб'юць, нас рэпрэсуюць...*
*Дай Бог, каб беларусы хоць у будучым*
*Даўмеліся імёны нашы*
*ўваскрасіць.*

*Спракаветную Слуцкую пушчу*
*Лёгкадумна калісь звялі;*
*У бяспецы сягоння раўніна Слуцкая.*

*Прыйдзе час —*
*І раўнінаю Слуцкай*
*Перастанеце ганарыцца.*

*...Слядоў паўстання*
*Няма сягоння ў Слуцку;*
*Слядоў яго здушэння —*
*безліч, процьма.*

*"Слова без чыну — мёртвае, —*
*Калі ўжо большасць беларусаў*
*Ды усвядоміць гэта?"*

*І праз вякі мы будзем*
*Рэхам жыць*
*У беларускіх годных душах.*

## Юрый Дупанаў будзе абслугоўваць матч паміж камандамі Еўропы і Паўднёвай Амерыкі

Беларускі асістэнт рэферы Юрый Дупанаў будзе абслугоўваць матч за Міжкантынентальны кубак. Гэтая сустрэча адбудзецца 14 снежня бягучага года ў японскім горадзе Токіо. Нагадаем, што за Міжкантынентальны кубак звычайна спаборнічаюць мацнейшыя каманды Еўропы і Паўднёвай Амерыкі. У гэтым годзе ў Токіо сустрэнуцца італьянскі "Мілан" і аргентынскі клуб "Бока Хуніярс".

Беларус Юрый Дупанаў будзе працаваць у брыгадзе разам з двума расійскімі арбітрамі: бакавым — Генадзем Красюком і галоўным арбітрам Валянцінам Івановым.

**Падрыхтаваў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**НУ І НУ!**

## Пастка ...ля парога адміністрацыі

Адпраўляючыся раніцай на працу на легкавіку "Фольксваген-Пасат", гамяльчанін Пётр А. не думаў і не гадаў, чым закончыцца ягоная паездка па невялікай вуліцы Білецкага ў цэнтры горада. Літаральна ля парога адміністрацыі Цэнтральнага раёна Гомеля ён перакуліўся з машынай у глыбокую яму, вырытую напярэдадні на месцы парыву цеплатрасы рамонтнікамі КВУП "Гомельаблцеплассетка". На шчасце, вадзіцель застаўся цэлым і з перакуленай аўтамашыны выбраўся сам. "Фольксваген" з ушчэнт пабітым шклом і пагнутым верхам прыйшлося падымаць з яміны кранам.

Тэхнічныя эксперты ДАІ, якія прыехалі на месца здарэння, зрабілі заўвагі пра неадпаведнасць агароджы ўчастка рамонту цеплатрасы. Вечарам яно не асвятлялася нават чырвонымі ліхтарамі. Заўважыць небяспечную пастку ў пахмурную раніцу было няпроста.

Наогул у горадзе ўжо стала нейкім няшчасцем рыццё вуліц і тратуараў прыкладна ў адных і тых жа месцах па шмат разоў. Пры гэтым пра небяспечныя для людзей і машын ямы вельмі часта не папярэджваюць належныя засцерагальныя знакі.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ.**

## У Бабруйску знайшлі... ртуць

Гумовая колба, у якой знаходзілася 3,3 кілаграма ртуці, знойдзена ў Бабруйску (Магілёўская вобласць).

Гумовая колба, у якой утрымлівалася ртуць, была знойдзена на вуліцы Сацыялістычнай непадалёк ад крамы. Колба была ўпакавана ў цэлафанавы пакет і знаходзілася ў урне.

Ратавальнікі раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях забралі гумовую ёмістасць. Разлітай ртуці на месцы здарэння не зафіксавана. Метал здадзены для утылізацыі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

20

лістапада

ЧАЦВЕР

Усх. 7.47 Зах. 16.04
Даўж. дня 8.17
Апошняя квадра
17 лістапада

**ШАШКІ**

## Новы конкурс

Аб'яўляем новы класіфікацыйны конкурс — дванаццаты па ліку. Норма другога разраду — рашыць усе 12 заданняў, трэцяга — набраць 67 працэнтаў ачкоў.

У якасці заданняў будуць прапанаваны эцюды кандыдата ў майстры спорту Дзмітрыя Камчыцкага (Магілёў). Пяць пераможцаў атрымаюць яго прызы. Ім адзначаецца і суддзя конкурсу.

За знаходжанне пабочных рашэнняў (поўных ці прыватных) альбо доказ, што пазіцыя не развязваецца, налічваюцца дадатковыя ачкі.

А зараз — першае заданне, у якім паказваецца сучасны падыход да ідэі К.Ліжэ (частка першая Анталогіі эцюдаў-64 гросмайстра СССР Л.Вітошкіна, дыяграма 624):

**Белыя:** дамкі a3, a5, простая c5 (3).

**Чорныя:** a7, e3, f2 (3).

**Выйгрыш** (адно ачко).

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца ўсе жадаючыя.

Зычым поспехаў!

## Суддзі і... шашкі

Вышэйшы Гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь правёў спартакіяду па пяці відах спорту пад дэвізам "За здаровы лад жыцця". У шашках дасягнулі поспехаў работнікі Віцебскага гаспадарчага суда. Яны ўзнагароджаны граматамі і памятнымі падарункамі.

Між іншым, сярод суддзяў ёсць і вядомыя шашысты. Напрыклад, суддзя Мінскага абласнога суда Мікалай Курыловіч — нацыянальны майстар спорту, аўтар каштоўнай кнігі "Завочныя шашкі ў Беларусі" (Мінск, "Полымя", 1999 г.).

Аматараў шашак цікавіць, дзе яе магчыма набыць. Адказвае сам аўтар: "Яна засталася ў продажы яшчэ толькі ў Гродзенскай і Магілёўскай абласцях".




## Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 2 кастрычніка.

**"Без ілюзій"** (фрагмент эцюда Н.Матвіенкі, Анталогія эцюдаў-64, ч.1,д.156): b8 (fe5 A) c7=. A (g5) e5=.

**"Юбіляры":** М.Рабіновіч — І.Бельскі — 1... cd6 (замест 1...fg3, як у партыі) 2.d:b6 fe5 3.h:d4 ba7 4.e:g5 a:g1x — значна прасцей; Б.Агашын—В.Астрынскі — 1...ed4 2.c:g7! (у партыі белыя пабілі 2.c:g5 і прайгралі) a:c3 3.c:e7 h:d6 4.ed4 5.hg5 ed4 6.gf6 dc3 7.fg7 cb2 8.gf8 de5 9.gf2 ed4 10.hg3 bc1 11.fh6 cb2 12.gf4 ba7 13.fg3 ab6 14.hf8 dc3 15.fa3 bc1 16.fe5 c3-d2 17.ef6 de1 18.hg4=. Указаў В.Масквіч (Наваполацк).

**Рашылі:** А.Ашыхмін, А.Янчук, Р.Пагнаеўскі, В.Казарэвіч, У.Сапяжынскі, Ю.Магонаў, А.Сапегін, Ч.Якубоўскі, М.Падбярэзскі, Ч.Сінкевіч, І.Працук, В.Масквіч, В.Краўчук, А.Іванькоў, П.Чэрнак, В.Міхаль, В.Дзялендзік, Ф.Хадачынскі, А.Чумакоў, Л.Пасвісцелік, С.Супрунюк, В.Касцян, П.Елісееў, Г.Логвінаў, П.Каролік, А.Кагоцька, У.Захарчук, У.Мазанік, Д.Камчыцкі, Л.Жыхар, Л.Мінчук, М.Буканаў, В.Грабенка, І.Калякоў, М.Гофман, М.Гардзіеўскі, В.Астрынскі, А.Белы, В.Бялоў, М.Андрушчанкаў, І.Мельнік, Л.Вітошкін, І.Бельскі.

Поўнае пабочнае рашэнне ў заданні №5 класіфікацыйнага конкурсу-11 (1.cb8 2.b6-c7!x) залічана і В.Масквічу. Ён жа даказвае, што 1.ef4? з'яўляецца падманлівым следам, але не камбінацыйным, бо чорныя дасягаюць нічыёй, калі адкажуць 1...c:e7 ці 1...c:e3, а пасля 1...g:e3? 2.d:h4 c:e7 магчыма 3.ba3x і 3.cb8x. Некаторыя ўдзельнікі ўпэўнены, што заданне не мае другога рашэння: 1.b8 2.b6-c7 3.f6 c5 4.b6 5.h2 d6 6.b8 7.a3?=, а трэба 7.e5! a3 8.bc3 b4 9.a5 d6 10.c7/b8 (b2) 11.d4!! c1 12.ab6 cg5 13.ce5 d8 14.a7 hg5 15.ab8 b6 16.a7x.

Г.Логвінаў (Гомель) сцвярджае, што праблема П.Шклудава ("Народная воля", 25 верасня) не развязваецца: 6.g1 h2 7.g7 g3 8.h8 f2 9.e3 g1. Аднак 10.c3 b2 11.c3x.

"Вы дасканала апрацоўвайце нашы лісты, і ў нас ваша школа афармлення рашэнняў заданняў, — лічыць П.Каролік (таксама з Гомеля). — Майстры не ўсё бачаць. Тым часам нам, рашальнікам, неабходна корпацца глыбей. Спадзяюся, што Федэрацыя шашак Беларусі падтрымае прапанову аб прысваенні нам больш высокіх разрадаў. Гросмайстар СССР Л.Вітошкін падтрымлівае гэта, а ён ведае, што кажа".

## З нізкі кампазіцый

**1** (Віктар Шульга, Мінск). **Белыя:** дамка c1, простыя e3, f6 (3).

**Чорныя:** b6, d6, f8, g5, h4 (5).

e7 (bc5 AB) d4, b8x. B (e5) d8 (c5) a5 (ed4) f4, f4 (e3, g3) e3x. A (a5, g7 C) b6, f4, b8x. C (g3) f4x.

**2** (Іван Наўроцкі, Мінск). **Белыя:** b6, c1, c5, d6, e5, f2, g1, g3, h6 (9).

**Чорныя:** a3, c3, d2, d4, e3, f4, f8, g7, h2, h4 (10).

bc7 (f6) b2, c:e7, e3 (c:d4) e7, g1x.

**3** (Дзмітрый Камчыцкі, Магілёў). **Белыя:** дамкі a3, c7, простая b4 (3).

**Чорныя:** a7, f2, f6 (3).

ca5 (g5 AB) c5 (h4) e1 (g3) ab4 (g1) h4, d8 (a5) e1x. A (e1) c5 (g5 C) cb6, h4x. C (h4) b2 (fg5) d8 (f4) cb6, bf6x. B (e5) c5 (e1) b2 (f4 D) cb6, bc3x. D (h4) g7 (e7) f8 (a3) ab4x.

Кожную кампазіцыю дасылайце на асобным лістку паперы з рашэннем і пажадана — на дыяграме, а не толькі ў натацыі.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

**ШАХМАТЫ**

## 5-й шахматный конкурс

Публикуем очередные задания

**Задание №5**

**Белые:** Kph7, Фa8, Лc1, Ce4, Kd5, Kg4, пп. b2, d3 (8).

**Черные:** Kpd4, Лa4, Лh2, Kd6, Kd8, пп. a7, c5, h6 (8).

**Мат в 2 хода.**

За правильное решение №5 засчитывается **2 очка.**

**Задание №6**

**Белые:** Kpd2, Фb8, Лd6, Лg1, Ce7, Ch7, Kc5, Ke5, пп. d7, g4 (10).

**Черные:** Kpf4, Ca2, Cg7, Kc1, пп. a6, b3, c7, g5 (8).

**Мат в 2 хода.**

За правильное решение задания №6 засчитывается **2 очка.**




## Включайтесь в конкурс!

Для любителей шахмат, которые желают включиться в 5-й шахматный конкурс "Народной воли", повторяем условия предыдущих заданий.

**Задание №1**

**Белые:** Kpf4, Фd5, Ca3, Kd1, Kd4 (5).

**Черные:** Kpd2, п. e2 (2).

**Мат в 2 хода.**

За правильное решение задания №1 засчитывается **2 очка.**

**Задание №2**

**Белые:** Kpe1, Лc3, Cd7, Kb5, Kg4, пп. e3, g2 (7).

**Черные:** Kpe4, Cb1, Cc7, пп. b6, c4, f4 (6).

**Мат в 2 хода.**

За правильное решение задания №2 засчитывается **2 очка.**

**Задание №3**

**Белые:** Kpf3, Фc4, Kd4, пп. f5, g5 (5).

**Черные:** Kpe5, п. d7 (2).

**Мат в 2 хода.**

За правильное решение задания №3 засчитывается **2 очка.**

**Задание №4**

**Белые:** Kph6, Фa4, Лg5, Cg1, Kf6, Kh4, п. h5 (7).

**Черные:** Kpf4, Лe3, Cg2, пп. b4, d5, h3, h7 (7).

**Мат в 2 хода.**

За правильное решение задания №4 засчитывается **2 очка.**

Свои ответы на конкурсные задания присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "На 5-й шахматный конкурс".**

**Срок присылки решений** — две недели со дня опубликования в газете.

При ответах на двухходовые задачи достаточно указывать первый ход белых!

**Напоминаем, что участники конкурса, показавшие лучшие результаты, будут премированы подпиской на газету "Народная воля" и шахматной литературой.**

## Сергей Жигалко — чемпион!

Совсем недавно, в сентябре, мы поздравляли юного минского шахматиста Сергея Жигалко с завоеванием титула чемпиона Европы по шахматам среди спортсменов в возрасте до 14 лет. И вот новый блестящий успех талантливого шахматиста. Выступая на чемпионате мира среди юношей до 14 лет, проходившем в Греции, Сергей очень уверенно и сильно провел весь турнир. В 11 встречах он одержал 7 побед при четырех ничьих без единого поражения и сумел опередить 127 конкурентов. В награду ему была вручена золотая медаль чемпиона мира. Замечательное достижение! Отметим, что выступления в юношеских чемпионатах Сергей Жигалко сочетал с прекрасными достижениями в соревнованиях взрослых. Совсем недавно на Кубке Европы среди клубных команд он выполнил норму гроссмейстерского балла, а ранее успешно выступил в высшей лиге чемпионата Беларуси среди мужчин.

Приводим одну из партий минчанина, сыгранную в чемпионате мира.

### С.Жигалко—Д.Джошуа Сицилианская защита

1.e4 c5 2.c3 d6 3.d4 Kf6 4.Cd3 g6 5.Kf3 Cg7 6.h3 o-o 7.o-o Kc6 8.d5 Kb8 9.Cf4 h6 10.Лe1 a6 11.a4 b6 12.Ka3 Kbd7 13.Фc2 Cb7 14.Ch2 Kph7 15.Лad1 Ke8 16.Cg3 Kc7 17.h4 Kf6 18.Kc4 b5 19.Ka5 Лb8 20.ab ab 21.b4 c4 22.Ce2 Ca8 23.Kd4 Фd7 24.Cf3 Лbe8 25.Kac6 Kg4 26.Фe2 Ke5 27.K:e5 de 28.Kc2 Фd6 29.h5 Cb7 30.Лa1 Лa8 31.Фe3 e6 32.Лa7 Лab8 33.Фc5 Лfd8 34.hg+ fg 35.Лd1 ed 36.ed Ф:c5 37.bc K:d5 38.C:d5 Л:d5 39.Л:d5 C:d5 40.Л:g7+! **Черные сдались.**

Из других белорусских участников чемпионата наиболее успешно выступила минчанка Ланита Стецко, игравшая в самой младшей возрастной группе — до 10 лет. Юная шахматистка, впервые выступившая на таком уровне, набрала 8 очков из 11 возможных и заняла высокое шестое место среди 82 участниц. До последних туров боролся за призовые места старший брат Сергея Жигалко — Андрей, игравший в чемпионате юношей до 18 лет. Лишь неудачный финиш оставил его на 8-м месте при 104 участниках. Результат А.Жигалко — 7 очков из 11. Такой же показатель у витебчанина Андрея Горовца, игравшего в чемпионате до 16 лет. У него также 7 очков и восьмое место.

Наиболее успешно выступили на чемпионате мира спортсмены России, завоевавшие 9 медалей, в том числе 3 золотые. 4 медали, в том числе 3 золотые, у команды Китая. Всего же на чемпионате мира приняли участие 985 юных спортсменов из 84 стран.

**КРИМИНАЛ**

## Рвались в гаражи, попали в тюрьму

Ранее судимый 25-летний Александр Кишков вместе с учащимся ПТУ-144 Андреем Усовичем поздним вечером на территории ГСК-4 битый час разбирали металлической арматурой кирпичную стену гаража, пытаясь угнать стоявшую там иномарку. Когда металл уперся в деревянную внутреннюю обшивку, попытку прекратили, но преступные замыслы не оставили. Через несколько ночей в гараж другого ГСК проникли путем подкопа, но надежда выехать на почти угнанной автомашине угасла одновременно с заглохшим двигателем. В третий по счету гаражный кооператив друзья наведались спустя сутки, предварительно похитив у владельца ключи от входных замков гаража и автомобиля. Там ожидал третий "облом" — на месте преступления их задержал автовладелец.

На удачу в суде Железнодорожного района Гомеля несостоявшимся ворюгам рассчитывать не приходилось — после оглашения приговора Александру привиделся знакомый забор исправительной колонии строгого режима, где предстоит провести ближайшие четыре года и одновременно пройти курс принудительного лечения от хронического алкоголизма. Соучастник годом меньше проведет в воспитательной колонии для несовершеннолетних.

## Как оперативники «сели на хвост» работнику ЖЭУ

Спустя несколько дней после похищения с неохраняемой стоянки в Сельмашевском микрорайоне Гомеля "Фольксвагена-Пассат" его владельцу позвонил неизвестный и пообещал вернуть иномарку за 1200 долларов. В случае отказа от выкупа похититель обещал автомашину уничтожить. К такому повороту событий местные оперативники были готовы и "сели на хвост" 20-летнему работнику одного из ЖЭУ Владимиру Мещерякову.

Когда тот вместе с Андреем Снятковым проник в салон "Ауди-80", припаркованной владельцем в микрорайоне "Старый аэродром", сыщики находились по соседству. Иномарка благополучно завелась без ключа зажигания и тронулась с места, а в машине "оперов"... заглох движок.

Все окончилось не менее классическим "цугундером" — топлива в бензобаке "Ауди" хватило на ближайшие сто метров.

В ходе предварительного следствия была установлена причастность Владимира к похищению еще двух иномарок. Судом Железнодорожного района Гомеля похититель осужден к семи годам лишения свободы в исправительной колонии усиленного режима.

**Валерий КОЗУБОВ.**

## Четверг, 20 ноября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10** "Доброе утро, Беларусь!" Информационно-музыкальная программа.
**08.45, 14.45, 16.45, 20.45 23.35** "Моя страна".
**09.05** Авантюрно-приключенческий сериал **"Саломея"** (Россия). 3-я серия.
**10.05, 17.05** Сериал **"Тайны четырех преступлений"** (Италия). Фильм 3-й **"Тайны одного двора".** 1-я серия.
**11.10, 18.05** Детективный сериал **"Агентство НЛС-2"** (Россия).
**12.10** Мелодрама **"Папины дочки"** (Международный Французский Канал).
**14.05** "Точка". Музыкально-развлекательная передача для молодежи.
**15.15** Приключенческий сериал **"Амазонка"** (Канада-Германия).
**16.05** "5х5". Программа для молодежи.
**19.05** Комедия **"Веселая пасха"** (Франция).
**21.00** "Панорама". Информационный канал.
**21.40** Драма **"Поговори с ней"** (Испания).
**23.50** "Клип-обойма".
**00.00** "Новая коллекция" Олега Лукашевича. "Кутюрье Карл Лагерфельд".

**ОНТ**

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.20** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05, 19.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** Премьера. Сергей Безруков в фильме "Маска и душа". 1-я серия. (Россия, 2002 год).
**10.45** Дисней-клуб. "Базз и его команда".
**14.40** "Город женщин". Телевизионное шоу.
**15.35, 00.40** "Фабрика звезд - 3".
**15.55** "Угадай мелодию" с Валдисом Пельшем.
**16.20** Сериал **"Берег мечты".** 58-я серия.
**17.05** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.15** Ток-шоу "Окна" с Дмитрием Нагиевым.
**20.00** Время.
**21.05 "Нина".** Сериал. 5-я серия. (Россия, 2001 год).
**22.15** Премьера. "Убить Кеннеди". Документальный фильм. 1-я серия.
**23.40** Премьера. "Убить Кеннеди". Документальный фильм. 2-я серия.

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55** Телесериал **"Линия судьбы".**
**08.45** Комната смеха.
**09.45** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**18.00** Выборы-2003.
**19.30** Местное время. Вести-Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**21.00** Телесериал **"Оперативный псевдоним".**
**22.00** Вести+.
**22.20** "Исторические хроники" с Николаем Сванидзе. "1908. Илья Мечников".
**23.15** Народный артист.

**ЛАД**

**07.00, 14.00, 20.00** Новости.
**07.10** "Ореховый прутик", "Уроки тетушки Совы. Азбука-малышка". Мультфильмы.
**07.35** "Бюро находок". Иронические зарисовки.
**08.00, 22.15** Сериал **"Петербургские тайны"** (Россия).
**09.00** "Площадь искусств". 8-й Международный фестиваль "Белая вежа-2003". Часть 2-я.
**09.30** "Здоровье". Тележурнал.
**10.00** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.20, 21.15** Детективный сериал **"Приключения Шерлока Холмса"** (Великобритания).
**11.15, 13.10** "Обычный необычный день". Семейный канал.
**11.50** Комедия **"Музыкальная история"** ("Ленфильм").
**13.40** "Потерялась внучка". Мультфильм.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Приключенческий сериал для детей "Собачья жизнь" (Канада-США).
**15.25** "Замок лгунов". Мультфильм.
**15.45** "Не зевай!" Телеканал для детей.
**15.55** Тележурнал для школьников "Бум".
**16.20** Худ.фильм **"Чужая отчизна"** (ТО "Телефильм") 3-я серия, заключительная.
**17.40** "Моцарт и Сальери". Спектакль по произведению А.С.Пушкина.
**18.30** Худ.фильм **"Парень из нашего города"** ("Мосфильм").
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00** Сегодня утром.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** Квартирный вопрос: оргстеклянный интерьер.
**10.15** Ток-шоу "Страна советов".
**11.00, 16.00** "Сегодня" с Ольгой Беловой.
**14.35** "Мой муж - алкоголик". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство"** (США).
**17.35** "Первобытный инстинкт". "Профессия - репортер".
**18.00** "Сегодня" с Михаилом Осокиным.
**18.35** Премьера. Сериал **"Агентство "Золотая пуля". "Дело об утопленной кассете".**
**19.45** Остросюжетный сериал **"Черный ворон-2".** 19-я серия.
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.
**21.35** Красная стрела.
**21.50** "К барьеру!" Ток-шоу Владимира Соловьева.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 15.25 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.50** "Трансформеры". Мультипликационный сериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.05** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.15** "Тема дня".
**08.25** "Технология".
**08.40** Приключенческий фильм **"Каратистка".** (США, 1994 г.).
**10.20** "Без макияжа".
**10.40** "Фильм, фильм, фильм".
**10.55** "Проект "Отражение": "Убийство государственной важности". Документальный фильм.
**11.25** "Дикая планета": "Новые заповедники". Документальный фильм.
**12.00 "Истинная любовь".** Теленовелла.
**12.55** "Все для тебя".
**13.55 "NEXT - 2".** Телесериал.
**15.00** "Супершоу братьев Марио". Мультипликационный сериал.
**15.50** "Маска". Мультипликационный сериал.
**16.50** Криминальная драма **"За все заплачено".** (СССР, 1988 г.). 2-я серия.
**18.05** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.15** "Театральные истории".
**18.35** "Премьера на канале": "NEXT-3". Телесериал. 1-я серия.
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.30** "Фильм, фильм, фильм".
**20.50** Драма **"Наркобарон".** (США, 2002 г.).
**23.05** "Технология".
**23.15** "Новости СНГ".
**23.30** "Душой исполненный полет". "Фантазия".
**00.05** Боевик **"Убийцы на замену".** (США, 1998 г.).

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Художественный фильм **"Вертикальный предел".**
**19.15** Программа "Палитра".
**19.40** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют.
**19.45** Многосерийный фильм **"Последний репортаж".**
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Программа "У камина в Камянице".
**21.30** Мистический триллер **"Двенадцать обезьян".**

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Прогулки с Алексеем Баталовым.
**08.30 "Времена не выбирают".** Многосерийный телефильм.
**09.25** Наш сад.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.20** Особая папка.
**11.50** Игра в прятки.
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кестер".** Детективный сериал (Германия).
**14.20** Экспо-новости.
**15.30 "Расследование Элоизы Ром".** Телесериал (Франция).
**16.30** "Наши соотечественники". Князь Дмитрий Шаховской.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Выборы-2003.
**20.00 "Мужская работа".** Телесериал (Россия).
**21.40** Выборы мэра города Москвы.
**21.45** Секретные материалы: расследование ТВЦ.
**22.30** Времечко.
**23.00** Петровка, 38.
**23.20** 25-й час. События. Время московское.
**23.40** Серебряный диск.
**00.00 "Шпионы".** Телесериал (Великобритания).
**00.55 - 01.35** "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

**EUROSPORT**

**09.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Спецобзор. Повтор.
**11.30** Тяжелая атлетика. Чемпионат мира. Канада.
**13.00** Тяжелая атлетика. Чемпионат мира. Канада.
**14.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Отборочные матчи.
**15.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Отборочные матчи.
**16.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Отборочные матчи.
**17.30** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Отборочные матчи.
**18.30-** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Отборочные матчи. Повтор.
**19.30** Тяжелая атлетика. Чемпионат мира. Канада. Повтор.
**21.00** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Плей офф. Спецобзор.
**23.00** Бокс. ТВА.
**01.15** Футбол. Чемпионат Европы. Евро-2004. Отборочные матчи. Повтор.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

**Рэдактар нумара Алесь СІЛІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Красная звезда", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 670 экз. Заказ № 840.